**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 12 (833) 24 сакавіка 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





*Фота Ул. Скрабатуна*



## Нацбанк: стаўкі па крэдытах для фізасоб зменшацца пасля 1 красавіка

Пасля першага красавіка 2016 года стаўкі па крэдытах для фізічных асоб у Беларусі будуць зніжаныя. Пра гэта нядаўна, 18-га сакавіка, на прэс-канферэнцыі паведаміў намстаршыні праўлення Нацбанка Дзмітрый Лапко.

*telegraf.by*

## З 1 красавіка базавая арэндная велічыня вырасце да 136 тыс. рублёў

З першага красавіка 2016 года базавая арэндная велічыня ў Беларусі вырасце са 119 000 да 136 000 рублёў. Падвышэнне абумоўлена пастановай Савета міністраў №208 ад 17.03.2016 г.

Новы памер паказчыка будзе дзейнічаць у перыяд з 1 красавіка па 30 чэрвеня. З 1 ліпеня базавая арэндная велічыня будзе складаць 13 рублёў 60 капеек.

Варта адзначыць, што базавую арэндную велічыню выкарыстоўваюць пры разліку арэнднай платы за выкарыстанне плошчаў, якія належаць дзяржаве.

*telegraf.by*



## Лукашэнка: я прыхільнік паэтапнага падвышэння пенсійнага ўзросту на 3 гады

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, маючы зносіны сёння з працоўным калектывам СОАО "Камунарка", распавёў, што з'яўляецца прыхільнікам паэтапнага падвышэння пенсійнага ўзросту на 3 гады, перадае карэспандэнт БелТА. "Я схіляюся да таго, што мы павінны ісці паступова і акуратна,–адзначыў кіраўнік дзяржавы. – Я прыхільнік таго, каб пенсійны ўзрост павялічыць на 3 гады, кожны год па палоўцы. І так мы спакойна, за шэсць-сем гадоў зможам прайсці гэтыя тры гады".

*БелТА.*

ISSN 2077-8023



**Полацкі раён**

# Праграма пад пагрозай

■ Чэслаў Якубовіч.

**Многія нават буйныя айчынныя прадпрыемствы перажываюць зараз вялікія цяжкасці з-за эканамічнага крызісу.**

Сярод іх і Наваполацкаму ААТ "Нафтан" стала няпроста завяршыць пачатую чарговую праграму рэканструкцыі і мадэрнізацыі, бо за пару апошніх гадоў яго даходы рэзка ўпалі на фоне абвалу сусветных цэн на нафту. Гэты адзін з двух беларускіх НПЗ вырабляе больш 80 найменняў прадуктаў нафтаперапрацоўкі і 5 гадоў назад пачаў рэалізоўваць 22 буйныя інвестыцыйныя праекты, каб масава выпрабляць паліва, адпавядаючае стандартам якасці "Еўра-5". Аднак у намечаныя тэрміны не ўдалося пакуль запусціць асноўную ўстаноўку перапрацоўкі нафты АТ-8. На заводзе ўзводзяцца яшчэ 6 іншых установак, каб прадукцыя навапалачан адпавядала міжнародным стандартам, на якіх пабываў днямі віцэ-прэм'ер урада Беларусі У. Сямашка. На дзяржаўным узроўні прынятыя рашэнні, каб накіраваць на гэтыя аб'екты спецыялістаў-мантажнікаў высокай кваліфікацыі з іншых рэгіёнаў краіны. Фінансавыя магчымасці дзяржавы і банкаў зараз не такія, як былі раней, і навапалачанам нічога не застаецца, як разлічваць найперш на дадатковыя ўласныя фінансавыя рэсурсы. У гэтай сферы завадчанам патрабуецца пастаянна ўкараняць перадавыя тэхналогіі, а папярэднюю буйную праграму рэканструкцыі завода яны завяршылі ў 2005 годзе. Сёлета ўжо восенню ўстаноўку АТ-8 змогуць нарэшце запусціць, што дазволіць павялічыць аб'ёмы перапрацоўкі нафты і ўмацаваць пазіцыі калектыву.

**Шаркоўшчынскі раён**

# Цяжкасці  не для ўсіх

■ Кастусь Александровіч

**Сітуацыя з працяглымі затрымкамі зарплат і нават дзіцячых дапамог працягвае пагаршацца, а найбольш праблем з гэтай нагоды менавіта ў Віцебскай вобласці.**

Кожную суботу падчас "прамых ліній" скардзяцца людзі прадстаўнікам улады, што іх на месцах "кормяць" толькі абяцаннямі, а грошай не плоцяць за працу. Калі ў пачатку года ў Прыдзвінні такія даўгі мелі 117 арганізацый пераважна сельскай гаспадаркі, то ў далейшым колькасць такіх даўжнікоў яшчэ вырасла. Неадназова ў такі спіс пападала і сельгаспрадпрыемства "Княж", што ў Шаркоўшчынскім раёне. Акрамя таго, што ў гэтай гаспадарцы не разлічваліся з людзьмі, яна не пералічвала плацяжы ў пенсійны фонд, не аплочвала спажытую электраэнергію, не пагашала банкаўскія крэдыты. Кіраўніка гаспадаркі за даўгі прыцягвалі да дысцыплінарнай адказнасці, аднак шукаць рэзервы росту вытворчасці і эканоміі затрат ён і не думаў. Цярпенне супрацоўнікаў Камітэта дзяржаўнага кантролю вобласці скончылася, калі гаротнае ААТ "Княж" замест дапамогі сваім работнікам пры недахопе сродкаў набыло службовы легкавы аўтамабіль "Ніва". За такую раскошу падчас крызісу кіраўніка па галоўцы не пагладзілі, яго пакаралі штрафам у суме 108 млн. рублёў (600 базавых велічынь). Які "аўтарытэт" дырэктара будзе ў ягоных падначаленых, лёгка здагадацца, але гэта праблема актуальная для многіх. Дзяржкантроль устанавіў, што падобныя факты пры гаротным становішчы спраў у АПК былі і ў гаспадарках суседніх Мёрскага, Браслаўскага, Глыбоцкага, Пастаўскага раёнаў. Шмат цяжкасцей і ў сельгаспрадпрыемстваў на ўсходзе вобласці, аднак і там куплялі легкавушкі пры наяўнасці вялізных даўгоў.

**Пастаўскі раён**

# Медкомплекс на калёсах

■ Станіслаў Раманчук.

**Ва ўсім свеце ранняя дыягностыка розных захворванняў і даступнасць медыцыны да пацыентаў застаецца асновай умацавання здароўя насельніцтва.**

Па гэтым шляху пайшлі ў Віцебскай вобласці, дзе летась набылі першы ў краіне перасоўны медыцынскі комплекс абласнога дыягнастычнага цэнтра. Напрыканцы зімы такая міні-паліклініка на калёсах пачала працаваць у Пастаўскім раёне па рабочых днях. Паслуга аказалася запатрабаванай, бо штодзень да паўсотні жанчын усіх узростаў звяртаюцца, каб бясплатна правесці даследванне-скрынінг малочнай залозы, што дапамагае выявіць на ранняй стадыі рак.

Прыём і кансультацыі вядуць кваліфікаваныя ўрачы, медсёстры, рэнтгенлабаранты і медрэгістратары, кожны тыдзень прыязджае новая брыгада. Яны працуюць у некалькіх кабінетах, аснашчаных сучаснай апаратурай, у прасторным аўтафургоне на базе шасі аўтамабіля МАЗ. Медкомплекс злучаны з адзінай камп'ютарнай базай дадзеных, але і на месцы пры неабходнасці могуць правесці дадатковае ўльтрагукавое даследванне жанчыны. За першы год яго эксплуатацыі медыкі выявілі ўжо каля 650 пацыентак з той ці іншай паталогіяй і іх паспяхова пралячылі. Таму сёлета вобласць мае намер набыць і другі падобны медыцынскі перасоўны комплекс. Пасля Пастаў ён пераедзе ў гарпасёлак Лынтупы, бо выказваюць жаданне на платнай аснове абследвацца жыхаркі літоўскага прыгранічча, а летам медкомплекс адправіцца ў суседнюю Браслаўшчыну.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 24.03.16 | | | | Пятніца 25.03.16 | | | | Субота 26.03.16 | | | | Нядзеля 27.03.16 | | | | Пан. 28.03. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -3 | -2 | 0 | -3 | -4 | -2 | +2 | -2 | -3 | 0 | +3 | 0 | -1 | 0 | +3 | +2 | +1 | +1 | +3 |
| Ціск | 743 | 743 | 744 | 745 | 746 | 747 | 747 | 747 | 746 | 746 | 746 | 747 | 747 | 749 | 749 | 749 | 749 | 748 | 747 |
| Вецер м/сек | 4 В | 4 С-В | 2 В | 2 С | 1 С-В | 1 В | 3 Ю-З | 3 Ю | 3 Ю | 3 Ю | 6 Ю-З | 2 Ю | 2 Ю-В | 2 В | 2 Ю | 1 В | 2 В | 4 В | 4 Ю-В |
| Вільготнасць | 87 | 79 | 62 | 77 | 89 | 86 | 56 | 80 | 87 | 86 | 84 | 91 | 99 | 100 | 85 | 87 | 97 | 100 | 72 |

# Аб самым надзёным

## ВЕСНАВЫЯ ПАЛЯВЫЯ РАБОТЫ СЁЛЕТА Ў БЕЛАРУСІ БУДУЦЬ ПРАХОДЗІЦЬ У СКЛАДАНЫХ УМОВАХ З-ЗА НЕДАХОПУ ФІНАНСАВЫХ РЭСУРСАЎ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Кіраўніцтва нашай вобласці нядаўна паведаміла, што для прадстаячага выхаду на працу на веснавыя палеткі ў Прыдзвінні не хапае каля 1,5 тысячы механізатараў (іх прышлюць з горада). Аднак самая вялікая праблема, што на тэхніцы, якой хапае, калі і будзе каму рабіць у полі, аднак запасаў паліва не стварылі.**

Ва ўсім свеце развіццё сельскай гаспадаркі з'яўляецца прыярытэтнай задачай для эканомікі, бо гэта галіна забяспечвае насельніцтва харчаваннем, пастаўляе сыравіну для перапрацоўчых прадпрыемстваў. Не сакрэт, што наша краіна апошнім часам уклала ў беларускі АПК не адзін дзясятак мільярдаў долараў, калі мела за кошт падтрымкі Расіі вялікія даходы і практычна "мядовыя гады". Калі пасля развалу СССР беларусам самім есці не хапала, то ў наш час Беларусь пачала зарабляць ад экспарту ежы да 5 млрд. USD у год. Праўда, айчынныя гаспадаркі доўга разбэшчвалі вялізнымі дзяржаўнымі датацыямі і субсідыямі ( у адным толькі 2012 на падтрымку АПК з дзяржбюджэту направілі 34,2 трлн. рублёў ссуд і асігнаванняў).

У выніку мы яшчэ нядаўна мелі выдатныя паказчыкі экспарту прадуктаў сусветнага ўзроўню. Беларусь увайшла ў дзясятку лепшых у свеце па аб'ёмах экспарту малочных прадуктаў, а па прадажах сыроў знаходзіцца нават у шасцёрцы. Праўда, прадаваць малакапрадукты ў Еўропу маюць права толькі 4 нашы заводы, па стандартах ЕС сертыфікавана прадукцыя 10 прадпрыемстваў АПК, з іх ніводны мясаперапрацоўчы. Аднак у далейшым пасля ўступлення ў Мытны, а затым у Еўразійскі саюзы ў рамках адзінай эканамічнай прасторы з Расіяй і Казахстанам (яны ўжо члены СГА) нам прыйшлося зменшыць адчувальна ўзровень дзяржаўнай падтрымкі калгаснай вёскі. Ды і цяпер Беларусь сама адчувае ўжо сур'ёзныя фінансавыя цяжкасці, перажывае эканамічны спад і істотнае падзенне тавараабароту на асноўным расійскім рынку.

Прэзідэнт А. Лукашэнка днямі падчас разгляду кадравых пытанняў прызнаў, што сёння і ў Нацбанка "выше крыши проблем". Нашы банкі зараз ужо не маюць ранейшай рэсурснай базы, як раней, праводзіць грашова-крэдытную палітыку. Гаворачы проста, адчувальна не хапае рэсурсаў і большасці сельгаспрадпрыемстваў краіны веснавую сяўбу прыйдзецца праводзіць пераважна за кошт уласных сродкаў. А вось грошай у вяскоўцаў, асабліва ў нас на Віцебшчыне, мізэр, бо больш сотні гаспадарак вобласці цяпер даўжнікі па зарплаце, па разліках за электраэнергію, з фондам сацабароны, па выплатах падаткаў.

Кіраўніцтва нашай вобласці нядаўна паведаміла, што для прадстаячага выхаду на працу на веснавыя палеткі ў Прыдзвінні не хапае каля 1,5 тысячы механізатараў (іх прышлюць з горада). Аднак самая вялікая праблема, што на тэхніцы, якой хапае, калі і будзе каму рабіць у полі, аднак запасаў паліва не стварылі. Між тым, толькі адной саляркі патрабуецца ў вобласці, каб не працаваць з калёс і не парушаць тэхналагічную дысцыпліну сяўбы, амаль 30 тысяч тон. Адна загвоздка, што на месцах цяпер не ведаюць, дзе на дызпаліва знайсці 330 млрд. рублёў. Таксама слабыя гаспадаркі ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі і не ў стане будуць закупіць патрэбную колькасць мінеральных угнаенняў, сродкаў аховы раслін, без якіх добры ўраджай не вырасце.

Як ні горка, а гэта галіна айчыннай эканомікі няўхільна дэградуе, паколькі вёскі старэюць, а большасць моладзі адтуль з'язджаюць і не застаюцца нават у пабудаваных паўтары тысячах аграгарадках. Прэстыж працы ў сельскай гаспадарцы таксама нізкі, многія маладыя спецыялісты пасля адпрацоўкі тэрмінаў па размеркаванні пакідаюць гаспадаркі, пераходзяць у іншыя сферы, імкнуцца асесці ў буйных гарадах. Цяпер у глыбінцы не хапае спецыялістаў: аграномаў, заатэхнікаў, ветэрынарных урачоў, інжынераў, а ў адстаючых гаспадарках назіраецца кадравы голад на кіраўнікоў.

Па гэтай прычыне сёлета ў шэраг праблемных калгасаў накіравалі некалькі памілаваных главой дзяржавы ўпраўленцаў высокага рангу. Сярод іх апынуліся нават адзін з былых намеснікаў Генеральнага пракурора, некалькі гендырэктараў буйных прадпрыемстваў, экс-глава Чашніцкага раёна і іншых асуджаных за карупцыю і іншыя злоўжыванні. Калісьці ў эпоху прымусовай калектывізацыі на вёску прысылалі, як вядома, праверанных бальшавікоў, 25-тысячнікаў, а ў нашы дні ў Беларусі прадаўжаецца гэты ўнікальны эксперымент.

Канешне, працаваць прыйшлі ў глыбінку прафесіяналы і нядрэнныя спецыялісты, а карысці ад іх будзе дзяржаве болей, чым утрымліваць у камеры. Іншая справа, што навесці цяпер парадак на вёсцы будзе няпроста, бо людзі там змяніліся ў горшы бок. Цяжкае жыццё і праца ў многіх, як у мінулым за працадні на палях і фермах, прывялі да таго, што ў людзей прапаў інтарэс і стымул да плённага выканання сваіх няпростых абавязкаў. А без належнага настрою і энтузіязму, без натхнення любую справу паспяхова рабіць няпроста. Дарэчы, летась аграрыяў сур'ёзна падкасіла засуха, з-за чаго і кармоў нарыхтавалі меней, але асноўныя цяжкасці на вёсцы сёння з-за велізарных непад'ёмных даўгоў. Нягледзячы на ўсе гэтыя праблемы, веснавую сяўбу краіна правядзе, а яе вынікі мы пабачым падчас уборкі вырашчанага ўраджаю.

## Дзень за днём

**Прэзідэнт пацвердзіў, што павышэнне пенсійнага ўзросту будзе паэтапным і закране ўсіх беларусаў. Перамовы МВФ і Беларусі прадоўжацца ў красавіку. Беларусь запатрабавала ад Расіі зніжкі на газ. А. Лукашэнка пацвердзіў, што парламенцкія выбары пройдуць у верасні. У Беларусі засталося 8 % непрыватызаванага жылля, якое з 1 ліпеня стане арэндным. Да амаль 140 беларусаў вырасла колькасць удзельнікаў баявых дзеянняў у Данбасе. Цыклон "Зісі" пакінуў без свету 169 населеных пунктаў краіны. Мінулая зіма ўвайшла ў пяцёрку самых цёплых у гісторыі метэаназіранняў у Беларусі.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Фаварытамі прэзідэнцкай гонкі сталі дэмакратка Х. Клінтан і мільярдэр Д. Трамп ад рэспубліканцаў пасля ўнутрыпартыйных выбараў у асноўных штатах краіны.

**КНДР.** У сувязі з запускам яе ядзерных ваенных ракет Савет бяспекі ААН аднагалосна прыняў пакет самых жорсткіх санкцый супраць краіны за апошнія 20 гадоў.

**Бельгія.** Галоўнакамандуючы сіламі НАТО ў Еўропе Ф. Брыдлав абвінаваціў Расію, што яна разам з Б. Асадам правакуе крызіс з уцекачамі, як зброю супраць інфаструктуры ЕС.

**Польшча.** Для стрымлівання расійскай пагрозы ЗША размесціць у краіне альбо ў Прыбалтыцы 3-ю па ліку брыгаду хуткага рэагавання ў колькасці 5 тысяч ваенных.

**Германія.** Мінскі мірны працэс, як заявіла DW, памёр у Маскве, ключ ад вырашэння праблем у Данбасе ляжыць у кабінеце гаспадара Крамля, але Пуцін гэтага не жадае.

**Англія.** Глава ўрада Д. Кемеран заявіў, што дзеля міру ў Сірыі Асад павінен пакінуць пасаду, а Пуцін – перастаць бамбіць мірных людзей і падтрымліваць гэтага дыктатара.

**Расія.** Для стабілізацыі цэн на сусветных рынках главы расійскіх нафтавых кампаній дамовіліся замарозіць разам з АПЕК здабычу нафты на ўзроўні студзеня 2016 года.

**ЗША.** Прэзідэнт Б. Абама яшчэ на год прадоўжыў санкцыі супраць Расіі за яе спробы падарваць тэрытарыяльную цэласнасць і суверэнітэт Украіны, пагрозы яе міру і бяспекі.

**Украіна.** У гарадах краіны прайшлі акцыі ў падтрымку лётчыцы Н. Саўчанка, над уваходам у пасольства РФ у Кіеве вывесілі манекен Пуціна, будынак закідалі яйкамі.

**Бельгія.** Саміт Турцыя-ЕС у Брусэлі абмеркаваў шляхі выхаду з крызісу з небывалым патокам нелегальных мігрантаў, якім не будуць выдаваць палітычны прытулак.

**Славакія.** Жыхароў краіны шакіравала, што на парламенцкіх выбарах 14 месц заваявала ультранацыяналістычная неанацысцкая партыя "Наша Славакія".

**В'етнам.** Упершыню "Раснафта" пачала бурэнне свідравін на шэльфе ля паўднёвых берагоў краіны, бо радовішчы ў Заходняй Сібіры амаль што вычарпаліся.

**Расія.** Страшныя падзеі – гібель 36 шахцёраў у Варкуце, забойства дзяўчынкі ў Маскве, скарачэнне спажывання мяса і малака "не заўважылі" прапагандысцкія тэлеканалы РФ.

**Таджыкістан.** Прэзідэнт Э. Рахмон парэкамендаваў жыхарам краіны запасціся прадуктамі і вадой з-за маласнежнай зімы і пагрозы магчымай засухі і неўраджаю.

**Аўстралія.** Лепшую расійскую тэнісістку, былую першую ракетку свету 28-гадовую М. Шарапаву злавілі на допінгу, ёй пагражае ад 2 да 4-х гадоў дыскваліфікацыі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Нават пасля атрымання крэдытаў ЕФСР і МВФ, як папярэдзіў прафесар Б. Жэліба, беларусы лепей жыць не стануць, аддаваць крэдыты прыйдзецца нашым дзецям і ўнукам.

**Гомель.** Супраць былых дырэктараў 3 гаспадарак вобласці распачалі крымінальныя справы за прыпіскі і скрыццё фактаў масавага падзяжу жывёл і птушкі на фермах.

**Мінск.** Нобелеўскі лаўрэат С. Алексіевіч і яшчэ больш 270 знакамітых у свеце асоб заклікалі лідараў Еўропы вызваліць з расійскай турмы ўкраінскую лётчыцу Н. Саўчанка.

**Бабруйск.** Мясцовы "ФанДОК" і яшчэ 8 прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі аб'ядноўваюцца ў холдынг, заснавальнікам і ўпраўляючай кампаніяй якога стаў Банк развіцця Беларусі.

**Мінск.** Галоўная праблема прадпрымальнікаў, як заявіў глава Асацыяцыі малога і сярэдняга бізнесу С. Балыкін, падзенне пакупніцкага попыту, яе ніхто не зможа вырашыць

**Узда.** Суд пакараў былога главу раёна В. Пахольчыка 7 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці за атрыманне 13 тысяч еўра хабару за закуп камбайна ў нямецкай фірмы.

**Мінск.** Пры Лукашэнку магчымым, як заявіў палітолаг Ю. Дракахруст, пераўтварэнні ў эканоміцы ў стылі Дэн Сяопіня пры захаванні жорсткага палітычнага кантролю.

**Гродна.** Следства выявіла, што прычынай масавага атраўлення вучняў Рацiцкай СШ стала адсутнасць у ёй сістэмы прымусовай вентыляцыі паветра і моцны дым ад кацельні.

**Гомель.** Буйны завод "Гомсельмаш" зноў адправіў у вымушаны водпуск 13 тысяч сваіх работнікаў, па краіне няпоўная занятасць ужо на 174 прамысловых прадпрыемствах.

**Мінск.** За захоўванне наркотыкаў марыхуаны суд пакараў акцёра тэатра імя Я. Купалы А. Бародзіча 5 гадамі турмы без канфіскацыі маёмасці, калегі прасілі яго не саджаць.

**Барысаў.** У аграгарадку Атоліна падчас атрымання хабару звыш 24 млн. рублёў абласная міліцыя затрымала чарговага топ-менеджара, аднаго з дырэктараў ААТ "Барысаўдрэў".

**Мінск.** Міністр працы і сацабароны М. Шчоткіна паведаміла, што дапамога па беспрацоўю ў Беларусі значна вырасце, калі будуць ліквідавацца цэлыя прадпрыемствы.

**Мінск.** Углодкультуры пазбавяць самастойнасці і далучаць да Белдзяржфілармоніі ансамблі "Песняры", "Харошкі", ансамбль танца Беларусі, народны хор імя Цітовіча.

**Ашмяны.** З улікам пагашэння незаконна атрыманага даходу Вярхоўны Суд Беларусі на год зменшыў пакаранне былому начальніку мясцовай мытні І. Нівяркевічу да 6 гадоў калоніі.

**Мінск.** Упершыню ў неафіцыйнай абстаноўцы сустрэліся ў студыі тэлеканала "Беларусь-24" каталіцкі Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч і праваслаўны Мітрапаліт Павел.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Як будуць пералічвацца зарплаты пасля дэнамінацыі?



■ БелаПАН

**З 1 ліпеня 2016 года базавыя выплаты, устаноўленыя нарматыўнымі прававымі актамі, у тым ліку лакальнымі, падлягаюць памяншэнню ў 10 000 разоў.**

Акругленне паменшаных памераў базавых выплат ажыццяўляецца з улікам двух знакаў пасля коскі да найменшага наміналу грашовага знака (з 1 ліпеня 2016 г. - 1 капейка) узору 2009 года. Пры гэтым калі першая з адкідваймых лічбаў (трэцяя лічба пасля коскі) больш або роўная 5, то апошняя з захаваных лічбаў (другая лічба пасля коскі) павялічваецца на адзінку, а калі першая з адкідваемых лічбаў (трэцяя лічба пасля коскі) менш 5, то павелічэнне не адбываецца (адкідаюцца лічбы пасля коскі, пачынаючы з трэцяй).

Кожны разлічаны элемент (павышэння, надбаўкі, даплаты, прэміі і інш.) заработнай платы, пенсіі, дадатковы від грашовага забеспячэння, аднаразовая выплата падлягаюць паказаным акругленням.

Аналагічным чынам ажыццяўляецца акругленне заработнай платы работнікаў іншых арганізацый, устаноў, дзяржаўных органаў, а таксама грашовага забеспячэння вайскоўцаў.

Сярэднямесячная зарплата работнікаў за квартал, бюджэт пражытковага мінімуму і сярэдні заробак па краіне, якія выкарыстоўваюць для разліку дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, дапамог па часовай непрацаздольнасці і дапамог на пахаванне, падлягаюць памяншэнню ў 10.000 раз і акругленню.

Пры вылічэнні (пераразліку) дапамог па часовай непрацаздольнасці і па цяжарнасці і родах сумы заработнай платы, прэмій і іншых выплат (даходу, узнагароды) за кожны месяц перыяду (перыяд), за які вызначаецца памер сярэднядзённага заробку (даходу, узнагароды), падлягаюць памяншэнню ў 10.000 раз да двух знакаў пасля коскі.

Пры пераліку здзельных расцэнак колькасць знакаў пасля коскі вызначаецца наймальнікам самастойна. Памер налічанай заработнай платы на аснове здзельных расцэнак пералічваецца да двух знакаў пасля коскі, паведамляе БелаПАН.

Напрыклад, для аплаты працы работнікаў бюджэтных арганізацый устаноўлена тарыфная стаўка першага разраду ў 295.000 рублёў і штомесячныя дыферэнцыраваныя даплаты ад 86.000 да 75.000 рублёў. З 1 ліпеня названыя выплаты складуць 29 рублёў 50 капеек, штомесячныя дыферэнцыраваныя даплаты - ад 8 рублёў 60 капеек да 7 рублёў 50 капеек.

Дэнамінацыя афіцыйнай грашовай адзінкі Беларусі праводзіцца згодна з указам прэзідэнта ад 4 лістапада 2015 г. № 450 шляхам замены грашовых знакаў узору 2000 года на грашовыя знакі ўзору 2009 года ў суадносінах 10.000 беларускіх рублёў у грашовых знаках узору 2000 года да 1 беларускага рубля ў грашовых знаках узору 2009 года.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У вобласці вясной пасеюць 399 тысяч га зерневых, з 10 да 15 % пашыраць пасевы рапсу, шматгадовых траў, канюшыны, істотна знізяць пасевы кукурузы да 82,7 тысяч га.

**Лёзна.** Дырэктар ААТ "Рубежніца" Соф'я Бухаловіч пабывала на ўрачыстым прыёме ў Мінску жанчын-лідараў АПК краіны, дзе запрасіла на танец міністра Л. Зайца.

**Браслаў.** На базе райбальніцы вобласць запланавала адкрыць у 2017 годзе міжраённы цэнтр рэнтгенэндаваскулярнай хірургіі для аказання дапамогі жыхарам 6 раёнаў-суседзяў.

**Віцебск.** У лютым сярод 153 прадпрыемстваў і арганізацый Беларусі найбольш даўжнікоў па зарплаце – 117 зноў аказалася на Віцебшчыне, пераважна ў сельскай гаспадарцы.

**Глыбокае.** Новы намеснік главы вобласці па АПК В. Аскерка падчас "прамой лініі" паабяцаў работнікам КУСХП "Яблынька" разабрацца з затрымкамі зарплат і дапамог.

**Верхнядзвінск.** На буйной міжнароднай выставе "Продэкспа-2016" у Маскве элітны сыр "Маасдамер" масласырзавода атрымаў залаты медаль, за год іх экспарт вырас на 67 %.

**Шуміліна.** Пасля рэканструкцыі ўрачыста адкрылі абноўленае тэрапеўтычнае аддзяленне райбальніцы на 47 ложкаў, дзе лечаць і 15 неўралагічных хворых, за год 1,5тысячы хворых.

**Гарадок.** Суд пакараў 28-гадовага жыхара вёскі Аскатa 20,5 гадамі турмы за жорсткае забойства сваёй суседкі пенсіянеркі пасля адмовы загінуўшай даць яму спіртнога.

**Паставы.** Дзяржстандарт Беларусі дазволіў мясцоваму малочнаму заводу маркіраваць 6 відаў яго прадукцыі – малака, кефіру, ражанкі знакам якасці "натуральны прадукт".

**Лепель.** Аграхолдынг "Славянскі Велес" адкрыў на тэрыторыі раёна ў буйной вёсцы Бароўка 3-ці па ліку свой фірменны магазін "Мясная лаўка", ён даў 8 працоўных месц.

**Віцебск.** Глава вобласці М. Шарстнёў прадставіў калектыву рэдакцыі абласной газеты "Витебские вести" ўпершыню прызначанага галоўнага рэдактара Аляксандра Кліцунова.

**Гарадок.** У раённым цэнтры пачалі будаваць адзіны сёлета 40-кватэрны жылы дом, 4 кватэры ў ім выдзелены пад сацыяльнае і арэнднае жыллё, здаць яго навасёлам намечана восенню.

**Віцебск.** За забойства малатком пенсіянера, суседа-п'яніцы па камунальнай кватэры суд пакараў 55-гадовую гараджанку, педагога са стажам 7 гадамі калоніі агульнага рэжыму.

**Бігосава.** На мясцовай чыгуначнай станцыі 25-гадовы жыхар Полацкага раёна на падпітку перабягаў праз пуці, але не паспеў і яго збіў грузавы поезд, небарака трапіў у рэанімацыю.

**Орша.** За суткі чарговы цыклон "Зісі" высыпаў на горад і абласны цэнтр 2 дзённыя нормы снегу, шмат выпадкаў выпала і ў Сянно, але ў Докшыцах і Паставах снега няшмат.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па матэрыялах інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

**У адной старажытнай кнізе пішацца, што калі ў горадзе ёсць толькі адзін праведнік, гэты горад уратуецца. Яго чын ў 1962-м зрабіў Мінск горадам свабоды. Яго жыццё рабіла свабоднымі жыцці ўсіх, хто яго ведаў.**

**Савецкая ўлада ацаніла яго намер кайданкамі, кратамі і калючым дротам, Салжаніцын называў яго «барацьбітом за ўсеагульны мір».**

# Памёр дысыдэнт Сяргей Ханжанкоў

■ **Уладзімір Скрабатун**




Сяргей Ханжанкоў нарадзіўся 13 сакавіка 1942 года ў пасёлку Усць-Уціны Магаданскай вобласці ў сям'і былых палітзняволеных (бацька быў асуджаны ў 1935-м, дзед па матчынай лініі — у 1929-м). У 1955-м сям'і дазволілі вярнуцца ў Мінск.

З 1959-га Сяргей Ханжанкоў — студэнт гідратэхнічнага факультэта Беларускага палітэхнічнага інстытута.

27 мая 1963 года яго і ягоных сяброў арыштавалі савецкія спецорганы. 7 кастрычніка таго ж года засуджаны за «спробу зрабіць дыверсію» і «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 10 гадоў лагераў.

З сябрамі Ханжанкоў хацеў узарваць мінскую вежу-глушылку, але быў выкрыты ўладамі.

Пасля вызвалення з лагераў у 1973-м вярнуўся ў Мінск. Працаваў інжынерам у Беларускім дзяржаўным інстытуце праектавання аўтадарог, на заводзе імя Кірава. З 2002-га на пенсіі. Удзельнік І-га з'езда палітзняволеных (жнівень 1990-га, Санкт-Пецярбург).

Не рэабілітаваны і рэабілітацыі ніколі не дамагаўся.

Нагадаем нашым сталым чытачам, што ў часопісе "Абажур", №3 (78) за 2009 г. быў апублікаваны артыкул в.п. Яўгена Самсонава "Як "узрывалі" глушылку". Гэты ж матэрыял быў змешчаны і ў газеце "Вольнае Глыбокае".

Яўген Самсонаў у свой час правёў вялікую даследчую працу. Сустракаўся і неаднойчы з Сяргеем Ханжанковым.

У групу падпольшчыкаў акрамя С. Ханжанкова, уваходзілі Г. Сярогін і В. Храпавіцкі. Група мела на мэце узарваць у Мінску вышку, якая глушыла замежныя радыёперадачы, у тым ліку і Радыё "Свабода" (тады Радыё "Вызваленне"). Група здабыла шрыфт для выдруку ўлётак, а выбухоўку – са снарадаў апошняй вайны – для падрыву вышкі вышукаваў у Лаўрынаўскім лесе Віктар Храпавіцкі з Глыбокага.

27 мая 1963 года Ханжанкоў і яго сябры арыштаваныя. Неўзабаве ён зразумеў, што ў КДБ ведаюць усё пра іх арганізацыю. Асведаміцелем і правакатарам *аказаўся яго школьны сябра.*

У кастрычніку 1963 года Ханжанкоў быў асуджаны за «спробу зрабіць дыверсію» і «антысавецкую прапаганду» да 10 гадоў зняволення, столькі ж прысудзілі і Георгію Сярогіну. Віктару Храпавіцкаму – 8 гадоў зняволення. Усе яны адбывалі тэрмін у Мардоўскай АССР.

Сяргея Ханжанкова, разважлівага, інтэлігентнага чалавека, звычайна можна было ўбачыць на акцыях па ўшанаванні памяці ахвяраў нацызму і сталінізму і на вулічных акцыях. Ён актыўна ўдзельнічаў у гісторыка-культурніцкіх мерапрыемствах: канферэнцыях, пасяджэннях, круглых сталах, паездках па краіне. Яго як асобу не здолелі зламаць ні ўсе недэмакратычныя рэжымы, пры якіх ён жыў, ні дзесяць гадоў лагераў.

Сяргей Ханжанкоў назаўжды застанецца ў пантэоне айчынных змагароў за вольную, дэмакратычную і незалежную Беларусь.

# МЗС Беларусі папярэджвае грамадзян краіны пра магчымыя наступствы наведвання Крыма

МЗС Беларусі папярэджвае беларускіх грамадзян аб магчымых наступствах наведвання Крыма.

"Міністэрства замежных спраў заусёды арыентуе грамадзян Рэспублікі Беларусь, а таксама турыстычныя арганізацыі на тое, што пры планаванні адпачынку і турызму за мяжой ім неабходна браць пад увагу ўмовы транзіту, уездувыезду, а таксама знаходжання ў тым месцы, куды яны накіроўваюцца", — сказаў прэс-сакратар МЗС Беларусі Дзмітрый Міронзык, адказваючы на пытанне БелаПАН 17 сакавіка на брыфінгу ў Мінску.

Міронзык адзначыў, што МЗС неаднаразова на працягу 2014-2015 гадоў інфармавала беларускіх грамадзян аб устаноўленых заканадаўствам Украіны ўмовах для ўезду ў Крым замежных грамадзян.

***"Зноў хацелі б праінфармаваць нашых грамадзян аб тым, што пры планаванні паездкі ў Крым у сезон 2016 года неабходна выходзіць з таго, што ўезд-выезд на паўвостраў пры руху транзітам цераз тэрыторыю мацерыковай Украіны з турыстычнымі мэтамі не ўяўляецца магчымым,*** — сказаў Міронзык. — ***Пры наведванні Крыма цераз тэрыторыю Расійскай Федэрацыі грамадзянам Беларусі варта мець на ўвазе, што гэта можа паслужыць падставай для адмовы ва ўездзе названым грамадзянам на тэрыторыю Украіны і прыцягнення іх да адміністрацыйнай адказнасці ў адпаведнасці з украінскім заканадаўствам".***

Напярэдадні сезона адпачынкаў беларускія турфірмы пачалі актыўна прапаноўваць недарагі адпачынак у Крыме з заездам на паўвостраў цераз тэрыторыю Расіі. Пры гэтым у большасці выпадкаў патэнцыйных кліентаў не папярэджваюць пра магчымыя наступствы такога падарожжа.

***Тацццяна Каравянкова, БелаПАН.***




**По іску пракурора Глыбоцкага раёна**

# Добраахвотна адмовілася правесці аплату ўрону

■ **Аляксандра Янкіна,**
*старэйшы памочнік пракурора Глыбоцкага раёна*

Артыкулам 515 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь прадугледжана, што па дамове энергазабеспячэння энергаснабжаючая арганізацыя абавязваецца падаць абаненту (спажыўцу) праз далучаную сетку энергію, а абанент абавязваецца аплачваць прынятую энергію, а таксама выконваць прадугледжаны дамовай рэжым яе спажывання.

У выпадку невыканання ці неналежнага выканання абавязанняў па дамове энергазабеспячэння бок, які парушыў абавязанне, абавязаны пакрыць прычынены гэтым рэальны ўрон (ч.1 арт.518 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь).

У адпаведнасці з п. 209 Правілаў электразабеспячэння, зацверджаных пастановай Савета Міністраў ад 17.10.2011 №1394 (далей – Правілы электразабеспячэння), грамадзянін у выпадку выяўлення пашкоджання сродку разліковага ўліку электрычнай энергіі і (ці) магутнасці і (ці) зрыву пломбаў (пломбы), усталяваных на сродках разліковага ўліку электрычнай энергіі і (ці) магутнасці, а таксама на аўтаматычных выключальніках і іншых камутацыйных апаратах, абавязаны паведаміць пра гэта энергаснабжаючай арганізацыі.

На падставе п.п. 210, 211 Правіл электразабеспячэння ў выпадку выяўлення ў грамадзяніна пашкоджання сродку разліковага ўліку электрычнай энергіі аб гэта прадстаўніком энергаснабжаючай арганізацыі складаецца акт, на падставе якога энергаснабжаючая арганізацыя разлічвае суму ўрону і прад'яўляе яе спажыўцу да аплаты.

Так, у лютым бягучага года судом Глыбоцкага раёна разгледжана грамадзянская справа па іскавай заяве пракурора раёна ў інтарэсах РУП "Віцебскэнерга" да грамадзянкі С. аб спагнанні з апошняй сумы ўрону ў памеры 5 114 200 рублёў.

Яшчэ ў кастрычніку 2015 года супрацоўнікамі Глыбоцкага аддзялення "Энергазбыт" было выяўлена парушэнне грамадзянкай С. Правілаў электразабеспячэння, якое выявілася ў ускрыцці лічыльніка і правядзення маніпуляцый з яго механізмам з мэтай зніжэння расходу электрычнай энергіі. Таксама на электралічыльніку адсутнічае пломба Дзяржправерыцеля, другая пломба не адпавядае даце замены электралічыльніка.

У добраахвотным парадку С. адмовілася выканаць аплату ўрону.

Па рашэнні суда Глыбоцкага раёна грамадзянка С. павінна будзе пакрыць урон, прычынены РУП "Віцебскэнерга".

**Даведка!** Усяго пракуратурай раёна ў 2015 годзе да даўжнікоў за электраэнергію прад'яўлена 6 іскавых заяў, у мінулым перыядзе 2016 года – 2 заявы, якія разгледжаныя судом раёна і задаволеныя.

# Візавыя цэнтры Польшчы адкрыліся яшчэ ў чатырох гарадах Беларусі

**Візавыя цэнтры Польшчы адкрыліся яшчэ ў чатырох гарадах Беларусі: Пінску і Баранавічах (Брэсцкая вобласць), Лідзе (Гродзенская вобласць), Магілёве.**

Першыя чатыры, нагадаем, адкрыліся 1 сакавіка ў Мінску, Брэсце, Гродне і Гомелі. Такім чынам, цяпер у Беларусі працуе восем польскіх візавых цэнтраў.

Варта адзначыць, што 18 сакавіка мінскі візавы цэнтр пераехаў па новым адрасе: у гандлёвы цэнтр «Галілеа» на вуліцы Бабруйская, 6, каля чыгуначнага вакзала.

Як паведаміў 25 лютага на прэс-канферэнцыі часовы паверыны ў справах Польшчы Міхал Хабрас, польскія візавыя цэнтры здольныя прымаць да дзвюх тысяч заяў у дзень. Кошт збору за паслугі цэнтра складае 15 еўра ў эквіваленце, збор спаганяецца ў беларускіх рублях.

«Адкрыццё візавых цэнтраў значна аблегчыць працэс атрымання польскай візы для грамадзян Беларусі, — сказаў Хабрас. — Гэта дасць магчымасць павысіць якасць абслугоўвання, візы стануць больш даступнымі для беларусаў».

Ён падкрэсліў, што з пачаткам працы візавых цэнтраў беларусы змогуць вырашаць, як ім падаваць заяву на візу — самастойна ў консульства Польшчы або праз візавы цэнтр.

***БелаПАН***




# Сіноптык: Пасяўная кампанія сёлета ў Беларусі пачалася раней за звычайнае

**Пасяўная кампанія сёлета ў Беларусі пачалася раней за звычайнае, паведаміла 18 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску начальнік аддзела гідралагічных прагнозаў службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя Марына Нагібіна.**

Прычынай такой ранняй сяўбы яна назвала ўмовы надвор'я. Як растлумачыла спецыяліст, чым раней пойменныя землі вызваляюцца ад паводкавых вод, тым раней на іх пачынаецца сяўба сельскагаспадарчых культур.

"Сёлета дзякуючы таму, што зімовы характар надвор'я ўтрымліваўся непрацяглы час, запасы снегу і таўшчыня лёду на вадаёмах былі невялікія, рэкі вызваліліся ад лёду раней за звычайныя тэрміны. Вясновыя затапленні адбываюцца толькі на асобных участках рэк, таму паводка негатыўна на пачатак пасяўной не паўплывае. Тут усё залежыць толькі ад умоў надвор'я. У некаторых раёнах ужо пачаўся пасеў марозаўстойлівых культур", — сказала Нагібіна.

Пасяўная раней за звычайнае пачалася нягледзячы на тое, што на тэрыторыі краіны трымаецца халоднае надвор'е, адзначыла яна.

***Ірына Турчына, БелаПАН.***

# Электрабяспека пры выкананні рамонту электраправодкі

**Пры няправільнай эксплуатацыі электраправодкі або ў выпадку няправільнага мантажу, выбару ахоўных апаратаў, пашкоджанні ахоўных апаратаў і па іншых прычынах магчыма пашкоджанне элементаў электраправодкі – разетак, выключальнікаў, кантактных злучэнняў у размеркавальным шчыце і ў размеркавальных скрынках і г.д.**

■ **А.Н. Ішуцін,** *інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА "Энерганагляд"*

Пры наяўнасці адпаведных навыкаў і доследу правядзення электрамантажных работ, узнікшыя няспраўнасці ўхіляюцца самастойна, без прыцягнення спецыялістаў.

Вельмі часта ў сілу адсутнасці вопыту або пры нядбайным стаўленні не выконваюцца правіламі электрабяспекі, што прыводзіць да ўдару токам у працэсе правядзення рамонтных прац. Таму, каб пазбегнуць узнікнення негатыўных наступстваў настойліва рэкамендуецца прыцягваць для ліквідацыі няспраўнасцей электраправодкі кваліфікаваных спецыялістаў. Калі вы ўсё ж такі вырашылі ліквідаваць няспраўнасць самастойна, то неабходна асаблівую ўвагу ўдзяліць пытанню электрабяспекі.

Асноўнае правіла – поўнае абясточанне ўчастка электраправодкі, на якім плануецца правядзенне рамонтных прац. Перад непасрэдным пачаткам правядзення работ неабходна пераканацца ў тым, што напружанне сапраўды адсутнічае пры дапамозе адмысловага індыкатара і паказальніка напружання.

Праца пад напружаннем праводзіцца толькі ў тых выпадках, калі адсутнічае магчымасць абясточання ўчастка электрычнай сеткі і толькі пры наяўнасці спраўных, выпрабаваных электраахоўных сродкаў: дыэлектрычнага дыванка або электрычнай падстаўкі, інструмента з ізалявальнымі дзяржальнямі, дыэлектрычных пальчатак. Дадзеныя працы можа праводзіць толькі кваліфікаваны работнік, які мае адпаведную групу электрабяспекі і допуск да выконваемых работ.

Падчас узгарання электраправодкі неабходна памятаць пра тое, што тушэнне электраправодкі вадой забаронена да яе поўнага абясточання. Пад напружаннем электраправодку можна тушыць вуглекіслотнымі і парашковымі вогнетушыцелямі, якія маюць на корпусе маркіроўку "Е" або надпіс, які сведчыць аб тым, што ім можна тушыць электраабсталяванне пад напружаннем з указаннем значэння напружання і мінімальнай адлегласці, з якой магчыма ажыццяўленне тушэння ўзгарання пры дапамозе дадзенага вогнетушыцеля. Як правіла, гэта напружанне велічынёй да 1000 В, адлегласць – не менш за 1 м. Таксама для тушэння электраправодкі, якая знаходзіцца пад напружаннем, можна выкарыстоўваць пясок.





# Набыты ў афіцыйных нарыхтоўшчыкаў сок дастsavіць Вам радасць

**Наступіла вясна, хутка пачнецца сезон нарыхтоўкі драўняных сокаў і насельніцтву неабходна ведаць парадак і правілы іх нарыхтоўкі.**

■ **А.Г. Абрамчык,** *старэйшы дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Згодна з пунктам 2 Правілаў нарыхтоўкі другарадных лясных рэсурсаў і ажыццяўлення пабочнага лесакарыстання, зацверджаных пастановай міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь ад 20 сакавіка 2001 года №37/36: "Юрыдычныя асобы і грамадзяне павінны ажыццяўляць нарыхтоўку драўняных сокаў на землях ляснога фонду ў адпаведнасці з Правіламі нарыхтоўкі другарадных лясных рэсурсаў і ажыццяўлення пабочнага лесакарыстання.

Грамадзянам даецца магчымасць свабодна нарыхтоўваць драўняныя сокі толькі на спецыяльна адведзеных для падсочкі ўчастках ляснога фонду, з захаваннем тэхналогіі падсочкі, а таксама магчымасць набыцця нарыхтаванага соку ў структурных падраздзяленнях юрыдычных асоб, якія вядуць лясную гаспадарку (лягасы). У астатніх месцах на землях ляснога фонду нарыхтоўка драўняных сокаў забараняецца.

У адпаведнасці з пунктамі 12-13 Правілаў, нарыхтоўка драўняных сокаў забараняецца:

■ у прыбярэжных палосах рэк, азёр, вадасховішчаў і іншых водных аб'ектаў, у межах палос адводу чыгуначных і аўтамабільных дарог, іншых транспартных і камунікацыйных ліній;

■ у населеных пунктах;

■ у дэндралагічных парках, батанічных садах;

■ у месцах пражывання і росту дзікіх жывёл і дзікарослых раслін, аднесеных да відаў, уключаных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь;

■ у межах акругаў і зон санітарнай аховы курортаў;

■ у месцах масавага адпачынку грамадзян, парках, скверах і г.д.;

■ у межах гісторыка-культурных запаведнікаў, мемарыяльных паркаў, археалагічных помнікаў.

Пры нарыхтоўцы соку на тэрыторыі, дзе гэта забаронена, альбо без дазвольнага дакумента, калі яго атрыманне абавязкова, або не ў адпаведнасці з ім, прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у адпаведнасці з ч.1 арт. 15.26 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь – цягне накладанне штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь. Нароўні з выплатай штрафу, вінаватыя абавязаны пакрыць шкоду, прычыненую навакольнаму асяроддзю пашкоджаннем дрэў, па таксах, зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24 ліпеня 2008 года №348 "Аб таксах для вызначэння памеру кампенсацыі шкоды, нанесенай навакольнаму асяроддзю». Пры немагчымасці канфіскацыі незаконна нарыхтаванага драўнянага соку ў юрыдычных і фізічных асоб спаганяецца яго вартасць згодна з таксамі, зацверджанымі Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 20 ліпеня 2001 года №1073 "Аб спагнанні кошту незаконна здабытай драўніны і іншай лясной прадукцыі пры немагчымасці іх канфіскацыі ў юрыдычных і фізічных асоб".

Пра месцы, дзе дазволена нарыхтоўка бярозавіку, Вы можаце даведацца ў лясніцтвах па месцы жыхарства або ў мясцовым лягасе.

ДЛГУ «Пастаўскі лягасы» і Глыбоцкі доследны лягас ў вясновы перыяд актыўна займаецца нарыхтоўкай і рэалізацыяй бярозавіку насельніцтву, цэны на сок вельмі даступныя, а таму міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету рэкамендуе грамадзянам набываць сок наўпрост у нарыхтоўшчыкаў, а не займацца саманарыхтоўкай. Тады Вы надзейна пазбегнеце ўсіх непрыемнасцяў, а набыты ў афіцыйных нарыхтоўшчыкаў сок даставіць Вам радасць.

**Па ўсіх пытаннях нарыхтоўкі драўняных сокаў можна звярнуцца ў лясніцтва па месцы жыхарства, лягас альбо ў Глыбоцкую міжрайінспекцыю па тэлефонах: 8-02156- 28670, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645- 66-78.**

# Піце кляновы сок і будзеце здаровымі



**У асноўнай сваёй масе насельніцтва нарыхтоўвае бярозавы сок, але з кожным годам усё большай папулярнасцю стаў карыстацца кляновы сок.**

■ **А.Г. Абрамчык,** *старэйшы дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Нягледзячы на тое, што ў Беларусі ён не нарыхтоўваецца ў прамысловых маштабах, многія жыхары нашай краіны збіраюць яго самастойна. Гэты напой багаты карыснымі хімічнымі элементамі: жалезам, кальцыем, натрыем, фосфарам і іншымі, таксама ў ім змяшчаюцца важныя для арганізма вітаміны: С, В, Е. Яшчэ ў даўніну кляновы сок згадваўся ў народных "лячэбніках".

Кляновы сок - гэта скарбніца антыаксідантных злучэнняў, якія вельмі карысныя ў барацьбе з сардэчна-сасудзістымі захворваннямі. У народнай медыцыне кляновы сок выкарыстоўваюць для лячэння нырак і печані. Таксама яго прымаюць пры авітамінозе. Ён мае танізавальныя, жоўчагонныя і агульнаўмацавальныя ўласцівасці.

Сезонам збору кляновага соку лічыцца сакавік і красавік. Ён не адрозніваецца доўгім тэрмінам захоўвання, таму з яго часта робяць кляновы сіроп, тэрмін прыдатнасці якога 1 год. Піце кляновы сок і будзеце здаровымі.

**Па ўсіх пытаннях нарыхтоўкі драўняных сокаў можна звярнуцца ў лясніцтва па месцы жыхарства, лягас альбо ў Глыбоцкую міжраённую інспекцыю па тэлефонах: 8-02156-28670, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

